# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№3 (238)

сакавік 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”



## У НУМАРЫ:

**Сацыёлаг Аксана Шэлест: У Беларусі пачалася трэцяя хваля эміграцыі**

Беларусы працягваюць з’язджаць з краіны, і колькасць падстаў для гэтага толькі расце.

Старонка 3

**Дзень Волі – 2022**

ЗША, Грузія, Польшча, Латвія...

Старонка 4–5

**Беларуска-ўкраінская паэтка Іна Снарская: Пасля гэтай вайны свет стане іншым**

Аповед пра змены ў побыце звычайных украінцаў, якія адбыліся з прыходам расійскіх войскаў, а таксама пра змены, якія зараз адбываюцца ў стасунках паміж беларускім і ўкраінскім народамі.

Старонка 6

**Беларус дапамагае адпраўляць тоны ежы ва Украіну**

Праект прадуктовай дапамогі беларусам, якія пацярпелі пасля пратэстаў, ператварыўся ў праект дапамогі ўкраінцам, якія цярпяць ад вайны.

Старонка 7




# НОВЫ АДУКАЦЫЙНЫ ПРАЕКТ ДЛЯ ДЗЕТАК АД “БУДЗЬМА!”

Грамадская кампанія “Будзьма беларусамі” прадстаўляе новы адукацыйны відэапраект для дзяцей “Разумняты”. Што б ні здаралася ў свеце дарослых, важна, каб дзеткі не былі пазбаўленыя забавак і цікавостак.

Гэта цыкл інтэрактыўных пазнавальных відэаролікаў, якія ў займальнай форме знаёмяць дзетак з навакольным светам на роднай мове. Першыя 5 ролікаў праекта прысвечаны базавым матэматычным паняткам.

Першы выпуск “Разумнятаў” распавядае пра адзінкі вымярэння.

Паглядзеўшы выпуск, дзеці даведаюцца:

– якімі мерамі даўжыні карысталіся нашыя продкі,

– калі і як з’явілася метрычная сістэма,

– што такое метр, сантыметр, міліметр і кіламетр,

– якія інструменты ёсць для вымярэння даўжыні.

Вучыцца на роднай мове цікава і прыемна. Дайце сваім дзеткам шанц зразумець гэта. Кожны аўторак уключайце ім новы відэаролік праекта “Разумняты”. А яшчэ лепш падпішыцеся на наш ютуб-канал, каб нічога не прапусціць.

Магчыма вашыя дзеткі пакуль не гавораць па-беларуску, але ім усё адно будзе цікава паглядзець відэаўрокі ад “Будзьма!”. Падчас прагляду ваша дзіця заўжды можа націснуць на паўзу і звярнуцца па тлумачэнні да дарослых.

Праект “Разумняты” разлічаны на ўзрост 5-9 год, а гэта, як вядома, самы спрыяльны час для вывучэння мовы. Цыкл нашых заняткаў пашырыць моўнае асяроддзе вашых дзетак, да ўсяго – гэта якасная альтэрнатыва мульцікам і камп’ютарным гульням.

Каб навучанне праходзіла яшчэ больш цікава і эфектыўна, мы падрыхтавалі да кожнага роліка дадатковыя матэрыялы: цікавыя факты, заданні і пытанні па тэме. Дадатак да першага роліка можна спампаваць па спасылцы.

Відэаролікі праекта “Разумняты” будуць карыснымі:

– выхавацелям дзіцячых садкоў у працы са старэйшымі дашкольнікамі;

– настаўнікам пачатковых класаў як дадатковы навучальны матэрыял;

– настаўнікам беларускіх школ і гурткоў беларускай мовы ў замежжы;

– дзеткам і іх бацькам для прагляду дома ў Беларусі і ў замежжы.

Глядзіце, натхняйцеся і дзяліцеся відэаролікамі.

Наша будучыня за нашымі дзецьмі!

Гадуйма сапраўдных беларусаў разам з “Будзьма!”



**НЕ ВАЙНЕ!**

**ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ**

# АРТ-ПРАЕКТ “СЛОВЫ МАЦНЕЙ” – ГЭТА БЕЛАРУСЬ ГАЛАСАМІ СУЧАСНЫХ БЕЛАРУСКІХ ЛІТАРАТАРАЎ



арт-праект
СЛОВЫ МАЦНЕЙ
БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!

навіны

## РАДА БНР ПРОСІЦЬ ЕЎРОПУ ПРЫЗНАЦЬ АКУПАЦЫЮ БЕЛАРУСІ РАСІЯЙ

Рада БНР звярнулася ў Раду Еўропы і ПАСЕ з прапановай прызнаць фактычную акупацыю Беларусі Расіяй.



Рада БНР накіравала ў Раду Еўропы мемарандум з заклікам прызнаць Беларусь краінай, якая знаходзіцца пад вайсковай акупацыяй Расіі, піша Рада БНР на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі лічыць, што Беларусь знаходзіцца “пад эфектыўным кантролем Расійскай Федэрацыі” ў цэлым, а некаторыя раёны – “дэ-факта пад расійскай ваеннай акупацыяй”. І гэта забяспечваецца дзякуючы змове з Лукашэнкам, адзначае “Позірк”.

Рада БНР таксама заклікала прызнаць той факт, што “дэмакратычная воля беларускага народа як нацыі – цвёрда стаяць разам з Украінай і з супольнасцю дэмакратычных краін свету, а таксама бачыць сваю краіну вызваленай ад фактычнай акупацыі”.

novychas.info

## ЦІХАНОЎСКАЯ СУСТРЭЛАСЯ З ПРЭЗІДЭНТАМ ПОЛЬШЧЫ

Яны абмеркавалі неабходнасць вываду расійскіх войскаў з тэрыторыі Беларусі і сумесную палітыку Захаду ў дачыненні рэжыму Лукашэнкі.




25 сакавіка ў Варшаве адбылася сустрэча прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды і дэлегацыі беларускіх дэмакратычных сіл на чале са Святланай Ціханоўскай. Гаворка ішла пра неабходнасць вываду расійскіх войскаў з тэрыторыі Беларусі, пра сумесную палітыку Захаду ў дачыненні рэжыму Лукашэнкі. Дуда распавёў пра вынікі саміта NATO і пра тое, што ў альянсе ёсць разуменне: беларускі народ не падтрымлівае расійскую агрэсію супраць Украіны.

Святлана Ціханоўская заклікала прэзідэнта Польшчы падтрымаць беларусаў, якія вымушана з'ехалі ў яго краіну. 25 сакавіка стала вядома, што ў Польшчы створана ўрадавая камісія для вырашэння праблем беларускіх уцекачоў.

novychas.info

вайна

# ЯК МОЖНА ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЕ

**1. Нацбанк Украіны адкрыў спецыяльны дабрачынны рахунак дапамогі краіне**



**2. Збор сродкаў у Польшчы**



**3. “Беларускі моладзевы хаб” збірае гуманітарку, забірае і размяшчае людзей**



**4. Partyzanka Freeshop збірае гуманітарную дапамогу**



эміграцыя

# Сацыёлаг Аксана Шэлест: У БЕЛАРУСІ ПАЧАЛАСЯ ТРЭЦЯЯ ХВАЛЯ ЭМІГРАЦЫІ

Беларусы працягваюць з'язджаць з краіны, і колькасць падстаў для гэтага толькі расце.

Кандыдат сацыялагічных навук Аксана Шэлест расказала пра асноўныя тэндэнцыі сучаснай беларускай эміграцыі.

Хваля эміграцыі, распачатая ў 2020 годзе, можа быць разгледжана як цэласная: прычыны і спецыфіка адны і тыя ж. Але, з іншага боку, у эміграцыйнай хвалі 2020–2021 гадоў ёсць як мінімум два складнікі, якія накладваюцца адзін на адзін па часе, але розныя па характары.



У 2020–2021 гадах моцна змянілася сама структура беларускай эміграцыі: маштабы яе незразумелыя, але з прычын і характару працэсы агульныя. Калі раней мы мелі справу са звычайнай эміграцыяй, перш за ўсё працоўнай, то цягам гэтых двух гадоў назіраем эміграцыю па палітычных прычынах, і яна зусім іншая, лічыць яе можна па-рознаму. У 2020–2021 гадах беларусы з'язджалі з краіны без афармлення працоўных віз, часам наогул без віз – гэта можна было б улічыць, калі б хтосьці спрабаваў лічыць. А некаторыя ўвогуле беглі вакольнымі шляхамі і партызанскімі сцежкамі, таму ні на выездзе з Беларусі, ні на ўездзе ў іншыя краіны немагчыма сабраць інфармацыю, колькі ж грамадзян у выніку з'ехала і не вярнулася.

Чаму я кажу пра дзве хвалі ўнутры эміграцыі 2020–2021 гадоў? Таму што гэта два якасна розныя працэсы. Першы этап эміграцыі – у жніўні і верасні 2020 года, калі людзі ўцяклі ад праследу і пагроз рэпрэсій. Гэта вельмі розныя людзі – па сацыяльным статусе, сацыяльна-дэмаграфічных характарыстыках, тыя, хто ўдзельнічаў у палітычных працэсах, у акцыях пратэсту. Яны знаходзіліся ў экстрэмальнай сітуацыі і часта проста не маглі вярнуцца ў краіну, бо ехалі з Беларусі нелегальна.

А другая хваля ўнутры той эміграцыі пачалася крыху пазней і была выклікана чысткамі ў дзяржаўных структурах, розных арганізацыях і ўстановах, звальненнямі нязгодных, нелаяльных, тых, хто засвяціўся ў палітычным працэсе. Мала таго, што людзей звальнялі па палітычных прычынах, яны яшчэ атрымлівалі чорную метку – не маглі ўладкавацца на працу па спецыяльнасці ў межах краіны, што называецца забаронай на прафесію. Калі прадстаўнікам працоўных прафесій прасцей змяніць працу, то для людзей, якія працуюць у медыцыне, адукацыі, навуцы, у журналістыцы, забарона на прафесію азначае прысуд.

### Эміграцыя ваеннага часу

Разуменне эміграцыі 2020–2021 гадоў важнае і для разумення таго, што адбываецца цяпер. 24 лютага паклала пачатак "новаму, дзівоснаму свету", і цяпер мы маем новую сітуацыю.

Па-першае, узмацняюцца трэнды, якія выявіліся ў 2020-2021 гадах, з'явіліся новыя катэгоры эміграцыі, ад'езд людзей назіраецца ўжо зараз і можа прагназавацца ў найбліжэйшай будучыні. Пры гэтым ацаніць маштаб гэтай хвалі пакуль цяжка, але можна аналізаваць, якія катэгорыі людзей і якія сферы яна закране.

Шмат для каго рашэнне аб ад'ездзе паскорылі ваенныя дзеянні супраць Украіны і ўзмацненне заходніх санкцый супраць Беларусі. У сувязі з апошнімі падзеямі з'явілася і параўнальна новая катэгорыя эмігрантаў.

Акрамя таго, у асобных сферах зараз проста няма магчымасці працаваць. Напрыклад, умоўнае блакаванне SWIFT прывядзе да таго, што частка кампаній проста не зможа працаваць у Беларусі пры ўсім жаданні, і яны вымушаныя будуць рэлацыравацца. А прадстаўніцтвы замежных і міжнародных кампаній будуць з'язджаць з Беларусі па этычных прычынах ці з салідарнасці.

Але гэта, мусіць, не ўвесь пералік. Калі захаваецца цяперашні ўзровень санкцый, то пэўная частка сувязяў – эканамічных, гандлёвых, абменных сувязяў з часткай свету, якая ляжыць на захад ад Беларусі, будзе проста закрытая, што адаб'ецца на вельмі-вельмі многіх сферах эканомікі.

І нарэшце, з'явілася новая, вельмі яўная катэгорыя беларускіх міграцыйных працэсаў – тое, што ў эканоміцы назвалі б "мужчынамі працаздольнага ўзросту", а насамрэч гэта ваеннаабавязаныя. Адчуванне мабілізацыі лунае ў паветры, таму многія беларускія мужчыны, якія не хочуць быць прызванымі, аддаюць перавагу прэвентыўна пакінуць краіну. Хаця б на час.

### Наступствы

Адбываецца далейшае вымыванне чалавечага рэсурсу з Беларусі, асабліва з высокатэхналагічных сфер, з бізнес-сектара, з інтэлектуальнай сферы, сферы адукацыі, культуры. Па колькасці тых, хто з'язджае, працэсы, можа быць, не фатальныя, але па якасці вельмі сур'ёзныя.

Важна яшчэ і тое, што міграцыя да нас надоўга спынена.

Выходзіць, пры такога кшталту адтоку рэсурсаў ніякага прытоку мы не атрымаем.

belmarket.by

навіны

# БЮСТЫ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ І КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА З'ЯВІЛІСЯ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Бюсты нацыянальным героям Беларусі былі адлітыя ва Украіне паводле праекта скульптара Геніка Лойкі, піша Вадзім Васільеў на сваёй старонцы ў Facebook.

26 красавіка каля будынку Святога Кірылы Тураўскага на 401 Атлантык-Авеню ў Брукліне адбылася ўрачыстая імпрэза – адкрыццё бюстаў вялікім беларускім дзеячам – нацыянальнаму герою Беларусі, ЗША і Польшчы Тадэвушу Касцюшку і нацыянальнаму герою Беларусі – Кастусю Каліноўскаму.

Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка браў актыўны ўдзел у вайне за незалежнасць ЗША (1775–1783). Па вяртанні на Радзіму ўзначаліў вызвольнае паўстанне народаў Рэчы Паспалітай супраць акупацыі іх родных зямель імперскай Расіяй (1794). Кастусь Каліноўскі ўзначальваў вызвольнае паўстанне супраць імперскай Расіі (1863–1864). Нашы нацыянальныя героі змагаліся за незалежнасць Беларусі, Амерыкі, а таксама Польшчы і Літвы, з якімі Беларусь мела супольную гісторыю.

budzma.org



Дзень Волі

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў МАЯМІ: САЛІДАРНАСЦЬ З УКРАІНАЙ

Святкаванне Дню Волі ў Маямі, Флорыда, сёлета цесна звязанае з падзеямі ва Украіне. Сябры аддзелу Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Паўднёвай Флорыды паднялі украінскія і беларускія сцягі, каб надалей павышаць свядомасць ўсяго свету, што бягучая праблема Украіны неаддзельная ад праблемы Беларусі.




"Пакуты украінскага і беларускага народаў маюць агульны корань ў Крамлі, – кажа Сакратар аддзела прафесар Паліна Прысмакова. – Гэта няспынная пуцінская прага панавання не толькі над прыгнечанымі народамі ў самой Расійскай Федэрацыі, але і суседніх краінах: Беларусі, Грузіі, Казахстане, а цяпер і Украіне".

Урачыстая цырымонія распачалася гімнам БНР. Пасля відэазвароту Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы і прамоваў сябра Галоўнай управы БАЗА Вячаслава Бортніка і старшыні аддзела Аляксандры Пушкаровай, слова далі Карыне Маясеевай, маладой жанчыне з актыву ўкраінскай дыяспары Флорыды.

"Гэта яна і яе каманда арганізуе мітынгі на сотні чалавек на вуліцах Маямі, і прадае ўкраінскі мерч на карысць пацярпелым", – адзначыла старшыня Аляксандра Пушкарова.

Сябры аддзела і госці паўдзельнічалі ў інтэрактыўнай гульні "Якая яна – вольная Беларусь?". Галоўнымі вартасцямі былі высунутыя роўнасць, права выбару і адказнасць за свой выбар і свабода слова. Вольга Вазякова правяла майстар-класы па беларускіх танцах, якія прывезла з сабою наўпрост з Плошчы Перамен.

Найбольш кранальным момантам быў выступ яе дачкі, дзяўчынкі Златы, якая распавяла пра свае дзіцячыя ўражанні ад пратэстаў 2020 года, у якіх разам са сваякамі ўдзельнічала асабіста: "Калі я бачыла, што ідзе міліцыя, я адразу ж аддавала незнаёмым на вуліцы свае белыя і чырвоныя шарыкі. Кожны раз".

Падчас канцэрта, украінцы са сцэны падзякавалі Аддзелу БАЗА Паўднёвай Флорыды за аказаную пільную дапамогу ў тэхнічнай арганізацыі першых украінскіх мітынгаў у Маямі.

budzma.org




# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў БАТУМІ

25 сакавіка беларусы Батумі сабраліся ў цэнтры горада на плошчы Еўропы, каб адзначыць Дзень Волі святочным мітынгам. На мерапрыемства прыйшло некалькі соцень чалавек. Акрамя беларусаў, прысутнічалі грузіны і ўкраінцы.

На мітынгу гучалі беларускія і ўкраінскія песні, выступалі з прамовамі беларусы Батумі, у тым ліку і старшыня грамадскага аб´яднання "Беларуская дыяспара ў Аджарыі" Раман Кісляк. Удзельнікі мітынгу нагадалі, што больш за месяц ідзе вайна ва Украіне і ўшанавалі памяць усіх загінулых хвілінай маўчання.

Беларускі клуб у Батумі арганізаваў выставу-сушку дзіцячых малюнкаў. Большасць малюнкаў падрыхтавалі напярэдадні вучні гуртка беларускай мовы. Падчас мітынгу для дзяцей была арганізаваная прастора, дзе яны малявалі і майстравалі з паперы беларускія і ўкраінскія нацыянальныя сцягі.

budzma.org

# 25 САКАВІКА Ў ВІЛЕНСКАЙ ГАРАДСКОЙ РАТУШЫ АДБЫЎСЯ СВЯТОЧНЫ ДАБРАЧЫННЫ КАНЦЭРТ З НАГОДЫ ДНЯ ВОЛІ

Народныя песні і ваярскія маршы Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны спявалі:

Мужчынскі хор UNIA (мастацкі кіраўнік – Павел Гонца), Маргарыта Ляўчук (сапрана), Маіна Валеніс (сапрана), акампанемент Дашы Мароз (фартэпіяна).

Жывая трансляцыя падзеі адбывалася адразу на трох пляцоўках: беларускім канале "Маланка медыя" і ўкраінскіх "Суспільне Культура" і "Історія без міфів".

Канцэрт ужо паглядзела больш як 15 тысяч чалавек. Усе сродкі, атрыманыя ад продажу квіткоў, будуць скіраваныя на дапамогу абаронцам Украіны.

@BelarusWithUkraine



# У ВАРШАВЕ ПРАЙШЛО ШЭСЦЕ Ў ГОНАР ДНЯ ВОЛІ




Мерапрыемства распачалося мітынгам на плошчы Канстытуцыі. Прамаўлялі актывісты і палітыкі.

Падчас выступу Святланы Ціханоўскай выглянула сонца. Нягледзячы на пахмурнае надвор'е сабралася некалькі тысяч беларусаў.

Лунала таксама шмат украінскіх сцягоў, чулася ў натоўпе і польская мова.

Пасля мітынгу калона рушыла да амбасады Украіны, каб выказаць падтрымку народу, які змагаецца за сваю і нашу свабоду.

Гралі дудары, сабралася група бубначоў. Мерапрыемства скончылася ля расійскай амабасады.

**Алена Ляшкевіч, budzma.org**

## ДЗЕНЬ ВОЛІ АДЗНАЧЫЛІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

25 сакавіка прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Нью-Ёрку пры падтрымцы Беларускай асветніцкай лігі Амерыкі зладзілі акцыю, прысвечаную Дню Волі.




Найперш удзельнікі мерапрыемства сабраліся каля консульства Расіі, дзе выказалі сваё абурэнне агрэсіўнымі дзеяннямі Расійскай Федэрацыі ў дачыненні да суседніх дзяржаваў, асабліва да Украіны, і дэкларавалі патрабаванне скасавання існуючага фармальнага хаўрусу Беларусі з дзяржавай-агрэсарам.

Пасля пратэстоўцы рушылі праз увесь Манхэтан уздоўж Цэнтральнага парку да будынка Аб'яднаных Нацый, насупраць якога адбылася другая частка мітынгу.

Варта адзначыць прыязнае стаўленне да імпрэзы з боку мясцовай паліцыі.

Афіцэры не толькі прадэманстравалі надзвычайную ветлівасць, але і давалі карысныя парады наконт маршруту, каб зрабіць акцыю заўважнай для большай колькасці людзей.

Таксама на працягу ўсяго маршу, калону суправаджаў паліцэйскі картэж, даючы дэманстрантам магчымасць рушыць нават на чырвонае святло і гарантуючы бяспечнае правядзенне акцыі.

Фіналам мерапрыемства стала вывешванне гістарычнага беларускага сцяга на Цэнтральным вакзале мегаполісу.

**budzma.org**

## НА ВАРШАЎСКІМ КАНЦЭРЦЕ Ў ДЗЕНЬ ВОЛІ ВЫКАНАЛІ ЧАТЫРЫ ГІМНЫ

Беларускі моладзевы хаб у Варшаве 25 сакавіка поўніўся музыкай. Вольны аркестр, гурт "Літы талер" і бандурыстка Алеся Бойка выканалі творы, важныя для беларусаў і ўкраінцаў.

У розных гарадах Польшчы сёлета на Дзень Волі можна было наведаць святочныя канцэрты: імпрэзы прайшлі ў Варшаве, Кракаве, Беластоку, Вроцлаве.

Варшаўскі моладзевы хаб прыняў каля паўсотні гасцей, у тым ліку дыпламатаў розных краін.

Выступілі Вольны аркестр, гурт "Літы талер", бандурыстка Алеся Бойка, паэт Андрэй Хадановіч.

З аркестрам спявалі Настасся Мацкевіч, Дар'я Новік, Дзмітрый Даўгадзілін.

За вечар прагучала ажно чатыры гімны, якія публіка слухала стоячы.

Канцэрт распачаўся гімнам БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і гімнам Украіны. Гралі таксама кант "Гімн ВКЛ", а завяршыла выступленне "Пагоня", якая ўспрымаецца як гімн новай Беларусі.

Цікава было пачуць у выкананні аркестра песні гурта NRM "Паветраны шар", "Простыя словы" з альбома "Я нарадзіўся тут", "Я не здамся без бою" гурта "Океан Ельзи".



Андрэй Хадановіч прачытаў у тым ліку і верш украінскага паэта Сяргея Жадана.

Гурт "Літы талер" выканаў на дудах інструментальную кампазіцыю "Багіня".

Файна, што на адной імпрэзе з беларускімі дудамі прагучала ўкраінская бандура.

**Алена Ляшкевіч, budzma.by**

## МЭР ВАШЫНГТОНА АБВЯСЦІЛА 25 САКАВІКА ДНЁМ ВОЛІ

Мэр Вашынгтона, Мюрыэль Баўзер абвесціла 25 сакавіка Днём Волі. Пра гэта гаворыцца ў абвяшчэнні, якое яна падпісала.

"Дзень Волі Беларусі шырока адзначаецца беларусамі па ўсё акрузе Калумбія і ва ўсім свеце з 1918 года ў памяць аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай народнай рэспублікі 25 сакавіка 1918 года. Святкаванне Дня Волі дае магчымасць беларускай дыяспары папулярызаваць і захоўваць багатую беларускую гісторыю, мову і культуру беларусаў у Вашынгтоне, акрузе Калумбія".

"Падтрымка незалежнасці, дэмакратыі і свабоды ў Беларусі адпавядае нашым каштоўнасцям абароны правоў чалавека, дэмакратычнага самакіравання і захавання права на самавызначэнне", – адзначаецца ў паведамленні.

**nv-online.info**

## БЕЛАРУСЫ ЛАТВІІ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ВОЛІ

26 сакавіка беларусы Латвіі сумесна з музеем Райніса і Апазіі адзначылі Дзень Волі.

У Юрмале прайшоў літаратурны вечар "Паэтычныя ніці скрозь стагоддзі і межы. Райніс і Беларусь", прысвечаны сяброўскім сувязям Яна Райніса, латышскага паэта і грамадскага дзеяча, з Беларуссю, яго падтрымцы беларускай культуры ў Латвіі і абароне нацыянальных інтарэсаў дыяспары ў Сейме ў 1920-я гады.

**budzma.org**

гутарка

# Беларуска-ўкраінская паэтка Іна Снарская: пасля гэтай вайны свет стане іншым

Не навіна, што ад вайсковай агрэсіі Расіі супраць Украіны цярпіць шмат беларусаў. Кагосьці вайна за адну ноч пераўтварыла з турыста ў бежанца, хтосьці толькі пачаў абжывацца на другой радзіме пасля падзеяў 2020 года ў Беларусі, каб у адно імгненне зноўку апынуцца ў сур'ёзнай небяспецы.

Вядомая беларуская паэтка Іна Снарская жыве ва Украіне некалькі дзясяткаў гадоў, з'яўляецца сябрам адразу двух саюзаў пісьменнікаў, украінскага і ліквідаванага сёлета беларускага. Яе аповед не толькі пра змены ў побыце звычайных украінцаў, якія адбыліся з прыходам расійскіх войскаў, але і пра тыя змены, якія зараз адбываюцца ў стасунках паміж беларускім і ўкраінскім народамі.




### Прадчуванне трагедыі

З чаго пачаць? Можа, з прадчування трагедыі, якая прыйшла – не спыталася. Яшчэ да паведамленняў амерыканскай і брытанскай выведкі пра імавернасць вераломнага нападу Расіі мне сталі сніцца сны пра вайну… 7 сакавіка – мой дзень народзінаў, і родныя традыцыйна дарылі мне падарожжа ў якую-небудзь цёплую краіну, Егіпет або Турцыю.

"А што калі будзе вайна?" – задавала я трывожнае пытанне сыну і мужу, а яны адказвалі, што гэта бязглуздзіца, што гэтага ніколі не здарыцца. Нават 23 лютага казалі, што я панікёрка. Усю ноч з 23 на 24 лютага я не магла стуліць павекаў, задрамала толькі пад самы ранак. І неўзабаве прачнулася ад таго, што ў пакой увайшоў муж і дужа сумна паглядзеў на мяне. "Вайна?" – "Так. Бамбілі Кіеў, Харкаў, Адэсу…" За вакном загучала паветраная трывога, як шалёныя лёталі па дарозе аўтамабілі. Муж паехаў запраўляцца, а я засталася сядзець каля чатырохгадовага ўнука, які якраз на гэтую ноч застаўся ў нас. Не наважвалася яго будзіць, толькі малілася…

### На змену жаху прыйшло вострае жаданне перамагчы

Першыя тры дні былі суцэльным шокам і жахам, мы не адліпалі ад тэлевізара, глядзелі хроніку падзей. Усе ўкраінскія тэлеканалы аб'ядналіся і бесперапынна транслявалі навіны. У горадзе людзі ў паніцы бегалі па крамах ды аптэках, скупляючы ўсё што патрэбна і што не патрэбна. З паліцаў пазнікалі хлеб, крупы, кансервы... Рэгулярна гучала паветраная трывога, у краіне аб'явілі вайсковае становішча, і калі муж пайшоў у ваенкамат, каб запісацца ў тэрытарыяльную абарону, там ужо была вялізная чарга з ахвочых бараніць сваю краіну, вобласць, горад. На змену жаху прыйшла лютасць, вострае жаданне адпомсціць ворагу, перамагчы, выстрываць. Думаю, падобнае адчувала не толькі я. Забыліся ўсе спрэчкі, непаразуменні. Уся Украіна паўстала і ператварылася ў суцэльны Майдан. А оркі ўсё бамбілі і абстрэльвалі расійскамоўны, талерантны да Расіі Харкаў, руйнавалі Марыупаль. Тады шмат хто "стаў відушчым". Ніводзін украінскі горад, мястэчка, вёска не сустрэлі ворага хлебам-соллю. Простыя людзі закідвалі варожыя танкі кактэйлямі Молатава ці, як тут іх жартам называюць, бандэраўскімі смузі, а ў захопленым Херсоне людзі пад дуламі аўтаматаў выходзілі на плошчы і вуліцы з жоўта-блакітнымі сцягамі. Пра шматлікія выпадкі неверагоднага гераізму можна прачытаць у інтэрнэце, усё гэта чыстая праўда…

### Кожны нешта робіць для перамогі

Ці было мне страшна, калі пачалася вайна? Вядома, я ж жывы чалавек. Першая думка была пераехаць у вёску, дзе ў нас лецішча, але ўсё ж мы вырашылі застацца ў горадзе, трымацца ўсім разам. Эвакуацыя за мяжу не разглядалася наогул, хоць і была такая магчымасць. Сёння кожны з маіх родных нешта робіць для сваёй краіны і перамогі.

### Як растлумачыць чатырохгадоваму хлопчыку, што адбываецца зараз

Больш за ўсё вымотвае паветраная трывога. Калі яна заспявае ў горадзе, хаваемся ў паркінгах, падвалах супермаркетаў, бамбасховішчах, каму як пашанцуе. Раней з першымі гукамі сірэны мы, як былі дома, адразу беглі ў падвал, а цяпер проста сядаем на падлогу ў калідоры, дзе няма вокнаў, за дзве сцяны ад вуліцы. Падчас паветранай трывогі я заўсёды з жахам думаю: кудысьці паляцела смерць…

Найбольш хвалююся за ўнука. Як растлумачыць чатырохгадоваму хлопчыку, што адбываецца зараз, чаму мы хаваемся ў падвале? Як яму расказаць пра вайну? Сын кажа: "Добра, што наш Макарчык яшчэ маленькі, спадзяюся, ён не запомніць тое, што адбываецца цяпер".

Макар рашуча, апантана водзіць сінім фламастарам па аркушы, крэсліць вертыкальныя лініі, закручвае ў спіралі. Пытаюся: "Што ты малюеш?" – "Вайну". І раптам пытаецца ў мяне: "Буся, а чаму калі гучыць сірэна, гэта азначае небяспеку?"

Паветраная трывога часта бывае ўначы, але сын і нявестка не бягуць у падвал, каб не спужаць Макарчыка, хаваюцца ў калідоры. У шафе малому пасцялілі матрасік, дзе ён часта засынае, не дачакаўшыся адбою трывогі… Увечары завешваем вокны спецыяльнай чорнай тканінай для светламаскіроўкі. Святлом карыстаемся мінімальна.

### Новыя звычкі і маленькія радасці

З'явілася некалькі новых звычак, сярод іх ранішняя і вячэрняя. Цяпер мой ранак пачынаецца не з кавы, а з прагляду навінаў. Дзякуй Богу, у нас ёсць інтэрнэт, чытаю ў тэлефоне, што адбылося за суткі. А ўвечары тэлефаную знаёмым і сябрам з Харкава і Кіева, дзе ад першага дня ідуць баявыя дзеянні. Да траюраднай сястры з Марыупаля за тры тыдні так і не змагла дазваніцца, можа, яе ўжо няма сярод жывых, але супакойваю сябе тым, што яна магла выехаць з Украіны, таму сувязі і няма… Вельмі турбуе доля знаёмых з Харкава. У паэта Андрэя Касцінскага ўшчэнт зруйнавалі кватэру ў шматпавярховым будынку, дачка яго цудам уратавалася, бо падчас абстрэлу засталася начаваць у кагосьці са знаёмых… Старшыня праўлення Харкаўскага гарадскога нацыянальна-культурнага аб'яднання "Сябры" Васіль Астаповіч нікуды не выехаў, застаўся ў сваёй кватэры, хаця той раён, дзе ён жыве, увесь час абстрэльваюць. Кажа: "Гэта мой дом, куды мне бегчы? Гэта наша зямля!" Ён не раз выказваў сваю пазіцыю ў Фэйсбуку, звяртаўся да беларусаў, даваў інтэрв'ю…

Сярод звычак, якія з'явіліся ў гэты цяжкі час, – нічога не планаваць наперад, радавацца кожнаму пражытаму дню, кожнай ночы, якая прайшла без паветранай трывогі. Маленькія радасці – кава, кветка на падваконні, сустрэча з унукам, усмешкі дзяцей, размова з сябрамі... Вялікае шчасце жыць і бачыць твары родных, дарагіх людзей…

### Сорамна за тых беларусаў, якія маўчаць

Украінцы заўсёды добра ставіліся да беларусаў, лічылі іх сваімі братамі. Я ва Украіне жыву ўжо больш за трыццаць гадоў і за гэты час ніколі не адчула нават мінімальнага ўціску, негатыўных ці паблажлівых да сябе адносін. Я самастойна вывучыла ўкраінскую мову, не таму, што мяне нехта змушаў, а таму што сама гэтага хацела. Такім чынам, натуральна ўлілася ва ўкраінскую культуру, уваходжу ў Саюз пісьменнікаў Украіны, таксама была сябрам у Саюзе беларускіх пісьменнікаў.

Вершы і малую прозу пішу па-беларуску і па-ўкраінску. Дваццаць гадоў я працавала на ўкраінскім дзяржаўным тэлебачанні, рабіла перадачы і дакументальныя фільмы на культурніцкую тэматыку. Быў цыкл перадач і пра Беларусь, беларускую культуру. Гэтыя тэленарысы заўсёды карысталіся папулярнасцю, як сярод беларусаў, так

і сярод украінцаў… Мне страшэнна балюча, што Рэспубліка Беларусь падтрымлівае Расію ў гэтай вайне. Мне сорамна за тых беларусаў, якія маўчаць, заплюшчваюць вочы на тое, што адбываецца. Добра разумею, чаму так, але кожнаму ўкраінцу не раскажаш пра шматлікія рэпрэсіі ў Беларусі, пра эміграцыю патрыятычных сіл і шмат што яшчэ. Тут ведаюць адно: пуцінскія орды забіваюць сыноў і дачок Украіны, бамбяць нават радзільныя дамы, тэатры, музеі. Ці былі бандэраўцамі нованароджаныя дзеці Марыупаля або манашкі Святагорскага манастыра? Як такое можна даравацъ? Як можна падтрымліваць і апраўдваць вайну?.. Але, спадзяюся, большасць украінцаў ведаюць: шмат беларусаў ваюе на ўкраінскім баку, яны змагаюцца за свабоду Украіны, бо не жадаюць жыць у канцлагеры. Гэтыя свядомыя беларусы стануць супрацьвагай, "выкупяць" сорам нацыі… У гэтыя дні я перажываю і асабістую драму: адзін мой брат жыве ў Маскве, другі ў Мінску, ніводзін з іх не піша, не цікавіцца, не хоча ведаць праўду... Але я ім дарую. Хай жывуць шчасліва… калі змогуць.

Мае беларускія сябры і знаёмыя – гэта пераважна патрыятычнае, нацыянальна свядомае асяроддзе, і, вядома ж, гэтыя людзі негатыўна ставяцца да вайны, развязанай пуцінскай Расіяй, маральна яны на баку Украіны. Таму мае адносіны да іх не зменяцца. Тыя, хто падтрымлівае вайну або маўчыць… Што ж, гэта іх выбар… я проста выкрэсліваю такіх беларусаў са свайго жыцця. Няхай жывуць без мяне…

**Пасля гэтай вайны свет стане іншым**

Ужо два з паловай гады я не была ў Беларусі. Вядома ж, сумую па родных мясцінах, сябрах, знаёмых. Радні ў Беларусі амаль не засталося. Не ведаю цяпер, калі прыеду і ці змагу.

У Крыму я не была з часу анексіі, хоць раней адпачывала там амаль кожнае лета. Магчыма, тое самае будзе і з Беларуссю, калі ў краіне не зменіцца ўлада.

Але галоўнае зараз выжыць, вытрываць, перамагчы. Пасля нашай перамогі, спадзяюся, і ў Беларусі нешта зменіцца да лепшага. Пасля гэтай вайны свет стане іншым.

Слава Украіне! Жыве Беларусь!

**Іна Снарская**

навіны

# БЕЛАРУС ДАПАМАГАЕ АДПРАЎЛЯЦЬ ТОНЫ ЕЖЫ ВА УКРАІНУ

Праект прадуктовай дапамогі беларусам, якія пацярпелі пасля пратэстаў, ператварыўся ў праект дапамогі ўкраінцам, якія цярпяць ад вайны.

**Былі "мэтчы", сталі "данаты"**

У 2020 годзе Філіп Гаўрылаў разам з сябрамі запусціў праект Ineedhelpby.org. Валанцёры ў ЗША маглі ўзяць на забеспячэнне сям'ю з Беларусі.

Беларусы маглі пакінуць на сайце праекта заяўку на атрыманне прадуктовай дапамогі.

Тых, хто мае патрэбу, злучалі са спонсарамі, і яны дыстанцыйна закуплялі прадукты на анлайн-гіпермаркетах.

– Было нескладана: у Беларусі працуе інтэрнэт-дастаўка. Любы амерыканскі спонсар мог спакойна сфармаваць кошык прадуктаў, заплаціць за яго і адправіць пацярпелым беларусам.

Ва Украіне цяпер усё складаней. І хлопцы за 24 гадзіны "перапілілі" праект. Назвалі яго Ineedhelpua.org.

– Пачалі проста збіраць данаты – і на сабраныя грошы закупляць прадукты для ўкраінскіх гарадоў. На гэтыя грошы мы тонамі купляем прадукты ў Польшчы ці суседняй Славакіі, – расказвае сузаснавальнік праекта, стваральнік акадэміі авіяцыі ў ЗША Андрэй Барысевіч.

**"Днямі хлопцы купілі 6 тон тушонкі"**

Большая частка прадуктаў сартуецца і захоўваецца на складзе ў варшаўскім бары. Уладальнікі ўстановы родам з Харкава, яны арганізавалі ў памяшканнях, якія прымыкаюць да бара, маштабны склад гуманітарнай дапамогі і забяспечваюць дастаўку ў самыя пацярпелыя гарады Украіны.

– Мы распрацавалі сетку прадуктаў: макарона, крупы, мука, цукар, кансервы, няхуткапсавальныя прадукты. Пазаўчора хлопцы купілі 6 тон тушонкі на варшаўскім заводзе. Праўда, ніхто не ведаў, што слоікі будуць шкляныя. Так што на складзе ўсю ноч гэтыя слоікі перакладалі паперай-кардонкамі. Сёння вечарам гэтае шкло паедзе ў Харкаў.



У Харкаве прадукты атрымаюць гарадская дзіцячая лякарня і валанцёры, якія кормяць людзей у бамбасховішчах.

А частка прадуктаў закупляецца ў суседняй з Польшчай Славакіі. Адтуль яна адпраўляецца ў памежны з Польшчай Ужгарад. Прадстаўнікі ужгарадскай рады звярнуліся да Барысевіча асабіста з просьбай дапамагчы запоўніць пустыя склады: горад прыняў шмат уцекачоў з Усходняй Украіны.

Каманда намагаецца рабіць фотасправаздачы, выкладвае відэа ў сторыз, каб спонсары бачылі: я ахвяраваў – хлопцы купілі.

– Вялікае шчасце, калі можам атрымаць з Харкава справаздачу: маўляў, вось, усё даехала. Але, зразумела, напружваць харкаўчан і патрабаваць ад іх прыгожых фотасправаздач мы не можам. Нам досыць дзвюх-трох фатаграфій.

**"Еўрарадыё"**

# ФІЛЬМ ПРА БЕЛАРУСКІЯ ПАДЗЕІ 2020 ГОДА ЗА СУТКІ ПАГЛЯДЗЕЛА БОЛЬШ ЗА МІЛЬЁН ЧАЛАВЕК

На нямецкім тэлеканале ARD выйшаў фільм "Беларусь – Кароткая мара пра свабоду", рэжысёркі Ірэны Лангеман.

"За ўчора фільм паглядзелі ажно 1.3 мільёна чалавек, сёння ды заўтра будуць паказы на іншых каналах. Мне ў прыват прыйшло шмат цёплых словаў ад незнаёмых людзей. Кожнаму я падзякавала за добрыя словы і запрасіла ў вольную Беларусь", – напісала ўдзельніца праекта журналістка Ірына Арахоўская ў сваім Facebook.



Пагледзець фільм можна па спасылцы.

**budzma.org**



мова

# МОВА НАНОВА ВЯРНУЛАСЯ Ў ВАРШАВУ

*Пасля невялікага перапынку ў Варшаву ў Беларускі моладзевы хаб вярнуліся заняткі беларускай мовы "Мова Нанова з Варшавы". Атрымалася вельмі сімвалічна: 21 лютага 2022 года адсвяткавалі Міжнародны дзень роднай мовы, а 21 сакавіка сустрэліся на Сусветны дзень паэзіі.*



Распачалі заняткі веснавымі спевамі ў выкананні гурта "Народныя спеўкі". Пасля гэтага слухачы пачыталі вершы нашых сучаснікаў са зборніка анталогіі беларускай паэтычнай рэвалюцыі "Бум-Бам-Літ", якая была выдадзена ў Кіеве ў 2021 годзе, а трапіла ў Варшаву напачатку лютага гэтага года.

Таксама прагучалі вершы, прысвечаныя Украіне, і аўтарскі верш адной з наведвальніц заняткаў. Да дарослых далучыліся дзеткі і расказалі некалькі вершаў.

Музычна-паэтычным госцем сустрэчы быў перакладчык, паэт і літаратуразнаўца Андрэй Хадановіч.

Ён выканаў як усім вядомыя творы, так і новаперакладзеныя. Некаторыя з іх былі прысвечаныя трагічным падзеям ва Украіне і прагучалі на мове арыгіналу.

**А.К., budzma.org**

кніга

# У ГОМЕЛІ ПРЭЗЕНТАВАЛІ КНІГУ ЖУРНАЛІСТА АНАТОЛЯ ГАТОЎЧЫЦА "ЖЫЎ-БЫЎ РЫЦАР ЛОКІ"

*Дакументальная аповесць прысвечана маладому беларусу Міхасю Жызнеўскаму.*




Хлопец не вылучаўся ў школе асаблівай паспяховасцю, не быў чальцом БРСМ і нават, як казалі педагогі, "не пацягнуў" патрыятычны клас. І вось нечаканасць для землякоў: Жызнеўскі першым з замежных грамадзян уганараваны найвышэйшай узнагародай братняй Украіны – Залатой Зоркай Героя.

За ідэю годнасці і свабоды Мішка-Локі і аддаў сваё жыццё 22 студзеня 2014 года на барыкадах у Кіеве.

Прэзентацыя кнігі праходзіла ў грамадска-палітычным цэнтры на вуліцы Палескай і была прымеркаваная да Дня Волі – 104-х угодкаў утварэння Беларускай народнай рэспублікі.

Прысутныя гамельчукі пазнаёміліся таксама і з кнігай нарысаў "Знакамітасці Лоеўшчыны", якую падрыхтаваў гісторык-краязнаўца Мікалай Анісавец.

**baj.by**

in memoriam

## ТАЦЦЯНА ДЗЯМЕННІКАВА



У выніку абстрэлу загінула Таццяна Дзяменнікава, кіраўніца беларускай суполкі Мікалаева "Голас Радзімы".

Жанчыну некалькі дзён шукалі пад заваламі абстралянага расійскімі войскамі будынка абласной адміністрацыі, дзе яна ў той дзень працавала.

Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына" шчыра смуткуе і выказвае спачуванні сваякам, блізкім і калегам Таццяны Дзяменнікавай, а таксама ўсім, хто яе ведаў.

## Беларускі каляндар памятных дат на красавік 2022 года

**1 красавіка**
- 145 гадоў таму, у 1877-м, нарадзіўся Васіль Захарка, грамадска-палітычны дзеяч, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1928–1943). Памёр у 1943-м.

**2 красавіка**
- 190 гадоў таму, у 1832-м, нарадзіўся Павел Баброўскі, этнограф. Памёр у 1905-м.

**4 красавіка**
- 135 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Фабіян Шантыр, грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік. Расстраляны ў 1920-м.

**9 красавіка**
- 105 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Мікола Вярба (сапр. Сільвановіч), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе. Памёр у 1975-м.

**10 красавіка**
- 40 гадоў таму, у 1982-м, памерла Апалонія Савёнак (дзяв. Раткевіч), пісьменніца, дзяячка эміграцыі ў ЗША.

**11 красавіка**
- 85 гадоў таму, у 1937-м, закатаваны Цішка Гартны (сапр. Зміцер Жылуновіч), дзяржаўны дзеяч, гісторык, пісьменнік.

**16 красавіка**
- 190 гадоў таму, у 1832-м, нарадзіўся Альфрэд Ромер, мастак, этнограф. Памёр у 1897-м.

**18 красавіка**
- 195 гадоў таму, у 1827-м, нарадзіўся Якуб Гейштар, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Памёр у 1897-м.
- 175 гадоў таму, у 1847-м, памёр Станіслаў Юндзіл, прыродазнавец.
- 135 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Анатоль Дзяркач (сапр. Анатоль Зіміёнка), паэт. Расстраляны ў 1937-м.
- 35 гадоў таму, у 1987-м, памёр Якуб Ермаловіч, пісьменнік.

**19 красавіка**
- 115 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Рыгор Акулевіч, грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Канадзе. Памёр у 1974-м.

**23 красавіка**
- 365 гадоў таму, у 1657-м, памёр Сільвестар Косаў, праваслаўны царкоўна-грамадскі дзеяч, пісьменнік.

**26 красавіка**
- Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986).

**27 красавіка**
- 105 гадоў таму, у 1917-м, памёр Лазар Заменгоф, лекар, вынаходнік мовы эсперанта.
- 100 гадоў таму, у 1922-м, нарадзілася Яўгенія Шастак, грамадская дзяячка, лекарка. Памерла ў 1998-м.
-75 гадоў таму, у 1947-м, памёр Валянцін Таўлай, паэт, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.

**29 красавіка**
- 20 гадоў таму, у 2002-м, памёр Ігар Гермянчук, грамадска-палітычны дзеяч, галоўны рэдактар газетаў "Свабода" (1991–1997), "Навіны" (1998–1999), часопіса "Кур'ер" (2000–2001).

**Беларусы ў свеце**
№ 3 (238), сакавік 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com